# Дэмакратычная камэдыя або яшчэ аб народным галасаваньні

Расейскія палітычныя партыі, што намагаюцца змантаваць СОНР, і ўцягнуць у яго нацыянальныя прадстаўніцтвы нерасейскіх народаў, абяцаючы ім, на аснове ўсенароднага галасаваньня плебісцыту, дзяржаўную незалежнасьць і аддзяленьне ад Расеі. Факт, што гэтыя народы абвесьцілі і аднавілі свае сувэрэнныя дзяржавы ў 1917-18 г.г., якія потым не шляхам плебісцыту, але пераважаю фізычнае сілы былі ўзнноў уключаныя ў склад расейскай турмы народаў — СССР, ня мае для расейскіх палітыкаў ніякага значэньня. Адзінай крытэрыяй для іх ў будучым ў развязаньні нацыянальнае праблемы падсавецкіх народаў — можа быць толькі народнае галасаваньне, праведзенае усім насельніцтвам бяз розніцы нацыянальнасьці на тэрыторыях існуючых сяньня саюзных рэспублікаў СССР.

Пры гэтым людзям, мала зарыентаваным у спэцыфічным палажэньні нерасейскіх народаў СССР, сугэруецца расейцамі думка, што такая пастаноўка справы зьяўляецца адзіна правільнай: яна быццам ані чуць не пярэчыць прынцыпам дэмакратызму, бо-ж сам народ мае свабодна выявіць сваю волю аб сваім будучым лёсе, выключае ўсякія імпэрыялістычныя пасяганьні расейцаў на нерасейскія народы, бо-ж расейцы ушануюць гэтую народную волю, а таксама нічым ня крыўдзяць нерасейскіх народаў, якія змогуць стварыць собскія дзяржавы й адлучыцца ад Расеі, калі толькі самі гэтага захочуць. І трэба згадзіцца, што на жаль, ня толькі звычайныя людзі Захаду, але нават і многія заходнія палітыкі прыймаюць такую прапанову расейцаў сурёзна, ня могучы зразумець у сваей заходней мэнтальнасьці яе запраўднага значэньня, ня могучы ўявіць сабе, што пад гэтымі, здавалася-б, шчырымі славамі хаваецца той жа самы расейскі імпэрыялістычны зьмест.

Ужо сам факт, што расейскія эміграцыйныя палітыкі ня могуць укрыць сваей ненавісьці да ўсіх нацыянальных прадстаўніцтваў нерасейскіх народаў, якія адкідаюць гэную канцэпцыю народнага плебісцыту, дамагаючыся аўтаматычнага вызнаньня абвешчаных імі іхных сувэрэнных дзяржаваў у 1917—18 г.г., пагардліва іх абзываючы «сэпаратыстымі», «нацыянал-шавіністымі» і «фашыстымі», мае сваю нядвузначную вымову. Згэтага вынікае, што тыя, якія заджаюцца на расейскую канцэпцыю народнага галасаваньня, ужо не зьяўляюцца ані «самастойнікамі», ані «сэпаратыстымі», ані «нацыянал-шавіністымі» ці «фашыстымі», ня можа тады быць больш шчырага прызнаньня з боку расейцаў, што прапанаване імі народнае галасаваньне, зьяўляецца ня чым іншым, як толькі хітрым прапагандовым блефам, каб змыліць апінію Захаду й ашукаць нерасейскія народы.

І трэба прызнаць расейцам дастаткова палітычнага спрыту й гіпакрызыі, каб дэмакратычны лёзунг самавызначэньня народаў і пашанаваньня іхняга свабоднага волявыяўленьня выкарыстаць для падмацаваньня іхняй імпэрыялістычнай пазыцыі. Мы прадстаўнікі паняволеных бальшавізмам народаў мусім адкрыта прызнацца, што каліб, прыкладам, мы згадзіліся на прапанаванае расейцамі народнае галасаваньне мы вельмі лёгка маглі-б праіграць і што расейцы маюць вялікія шансы якго выйграць для далейшага захаваньня «адзінай і недзялімай». Гэтае галасаваньне мы маглі-б прайграць не таму, што беларускі народ быццам ня хоча, як цьвердзяць расейцы, сваей дзяржаўнай незалежнасьці, што ён быццам жадае і надалей аставацца пад «апекаю» свайго «старэйшага расейскага брата», але маглі-б яго прайграць толькі дзякуючы тэй сытуацыі на бацькаўшчыне, якую стварыў нам расейскі бальшавізм. Гэтая сытуацыя зусім спэцыфічная, якая не знаходзіць ніякай аналёгіі ў вольным дэмакратычным сьвеце. Гэта усё расейцы вельмі добра зразумелі і таму намагаюцца сабраць у будучыні багаты ураджай з таго, што крывавай рукой засеіў Сталін.

Але прыгледзімся канкрэтна да гэтай, створанай прымусова, сытуацыі на бацькаўшчыне і адцемім, які ўплыў магла-б яна мець на ход і вынікі прапанаванага расейцамі «свабоднага волявыяўленьня» народаў.

1. Паводле расейскае канцэпцыі, паданай да ведама ў іхняй прэсе, пасьля перамогі над бальшавізмам у будучай вайне на ўсей тэрыторыі сяньняшняга Савецкага Саюзу спачатку была-б устаноўленая цэнтральная тымчасовая вярхоўная ўлада ў Маскве, якая мела-б за заданьне правесьці народнае галасаваньне на тэрыторыях сяньняшніх саюзных рэспублік аб тым, ці насельніцтва гэтых тэрыторыяў жадае аддзяліцца ад Расеі ў форме незалежнае дзяржавы ці астацца й на далей у ейным складзе. Ня трэба й даказваць, што дамінуючае становішча ў ворганах гэтае цэнтральнае часовае ўлады мелі-б расейцы й голас гэны быў-бы рашаючым. Таксама няма патрэбы мець найменшых ілюзыяў аб тым, што расейцы не захацелі-б выкарыстаць свайго упрывілеяванага становішча не на карысьць, а толькі на шкоду нерасейскіх народаў.

Сяньняшнія запэўненьні расейскіх паліттычных колаў, што ў васнову усякіх будучых нацыянальных спораў і непаразумленьняў будуць паложаныя прынцыпы свабоднага волявыяўленьня народаў, якія будуць заўсёды імі рэспэктаваныя, для нас ня могуць мець ніякага значэньня. Мы маем ня мала прыкладаў, што палітыка, а ў тым ліку й палітыка дэмакратычнага Захаду, часта, дзеля чыста каньнюнктурных мэтаў, больш лічыцца з дакананымі антыдэмакратычнымі фактамі, чымся з самымі прынцыпамі дэмакратызму. Дзеля ілюстрацыі возьмем прыклад для нас найбліжэйшы. Пасьля першай сусветнай вайны беларуская Вільня разам з часткаю акружаючае яе тэрыторыі была прызнаная, ня гледзячы на польскія пратэсты летувіскай рэспубліцэ. Палякі з гэтым не хацелі пагадзіцца, але афіцыяльная польская армія не магла пайсьці на Вільню, і гэтым самым зламаць сілай міжнародныя пастановы. Але палякі знайшлі выхад: заімправізавалі «бунт» ген. Жэлігоўскага, які быццам на собскую руку заняў Вільню, устанавіў г. зв. «Сярэднюю Літву», правёў выбары ў г. зв. «Віленскі Сойм», якія былі поўнасьцю збайкатаваныя беларусамі, летувісамі й навет жыдамі. Вось-жа гэты сойм, зложаны з адных палякаў вынес аднагалосную пастанову аб прылучэньні «Сярэдняй Літвы» да Польшчы, пасьля чаго ня толькі ня было ніякіх істотных пратэстаў з боку Захаду, ня толькі не паўсталі для Польшчы ніякія дыпляматычныя камплікацыі але навет Рада Амбасадараў у Варшаве шляхам вызнаньня дакананага новых граніцаў польскае рэспублікі, узаконіла гэты гвалт. Дык якая-ж гарантыя, што заходні сьвет, які сяньня зьяўляецца ані чуць ня больш дэмакратычным, чымсьці пасьля першай сусьветнай вайны, ня пойдзе на лініі вызнаньня дакананых фактаў?

А што такія дакананыя факты пры такой сытуацыі напэўна мелі-б месца, вымоўна гаворыць тое, што расейцы, хаця й вызнаюць на словах парвы нерасейскіх народаў на гэтую дзяржаўную незалежнасьць шляхам народнага выяўленьня, самі адкрыта выступаюць супраць распадзелу расейскае імпэрыі. Найбольш вымоўна аб гэтым гаворыць «Рэзалюцыя пяці расейскіх арганізацыяў у нацыянальным пытаньні», прынятая імі 19 жніўня 1951 г. на Штутгардскай канфэрэнцыі. У гэтай рэзалюцыі, выказаўшы шкоднасьць раздробленьня Расеі народаў, закладчыкі СОНР у заяўляюць: «Адзіна правільным і адзіна адказваючым інтарэсам усіх, бяз выключэньня народаў Расеі, на думку нарады, зьяўляецца не раздробленьне, а захаваньне адзінства сямі свабодных народаў Расеі, пабудаванай на аснове фэдэрацыі й культурна-нацыянальнай аўтаноміі».

Дык ясна, што расейцы, карыстаючыся дамінуючым становішчам у выканаўчых ворганах тымчасовай цэнтральнай улады, пэўне-ж ня будуць дзеіць на карысьць «раздробленьня Расіі» й супраць «захаваньня адзінства сям'і свабодных народаў Расеі». Тое, што прапанаваны расейцамі народнае галасаваньне мае праводзіцца пад наглядам Задзіночаных Нацыяў мела-б не вялікае практычнае значэньне. Бяручы пад увагу спэцыфічную сытуацыю на падсавецкіх тэрыторыях, дзеля таго каб гэты нагляд быў дастаткова эфэктоўным, патрэбная была-б ня толькі камісыя ЗН, што ўрадавала-б у Менску ды ў найлепшым выпадку ў акруговых цэнтрах Беларусі, але мусілі-б быць прадстаўнікі ЗН даслоўна ўва усіх пунктах галасаваньня й столькі-ж перакладчыкаў.

У мамэнт развязаньня нацыянальнае праблемы падсавецкіх народаў-паводля расейскае канцэпцыі практычна мусіла-б спачатку заіснаваць незалежная Расія і залежныя ад яе, калі ужо дзеля такту не гаварыць — паняволеныя — нерасейскія народы, якія ў умовах гэтае залежнасьці шляхам народнага галасаваньня пастанавілі-б аб сваім будучым лёсе, дык, зразумела, што, ня гледзячы на ўсякія слоўныя запэўненьні расейцаў, як і нагляд за плебісцытам ворганаў ЗН, палажэньне расейскага й нерасейскіх народаў было-б няроўнае, а ў сувязі з гэтым і няроўныя шансы на выніки галасаваньня.

Мы ў прынцыпе ня супраць таго, каб беларускі народ выказаў сваю волю аб тым, ці ён хоча жыць у сваей незалежнай дзяржаве, ня зьвязанай ніякімі дзяржаўнымі сувязямі зь іншымі народамі, ці увайсьці ў фэдэрацыйную сувязь з народамі іншымі, ня выключаючы й расейскага. Але аб гэтым беларускі народ можа пастанаўляць не ў умовах залежнасьці, але толькі й выключна, як раўнапраўны партнэр, як незалежная дзяржава. Спачатку незалежнасьць і поўнае аддзяленьне ад Расеі, а тады агульнанароднае волявыяўленьне аб тым, з кім і ў ступені захоча беларускі народ увайсьці ў тыя ці іншыя дзяржаўныя сувязі. Толькі такое можа быць разьвязаньне пастаўленай ініцыятарамі СОНР-у праблемы.

2. Але гэта яшчэ далёка ня ўсё, што давала-б расейцаму прывільяванае становішча ў запрапанаваным імі народным галасаваньні на нерасейскіх тэрыторыях.

Згодна дэклярацыяў нацыянальным пытаньні пяці расейскіх патрыяў — ініцыятараў СОНР-у права удзелу у народным галасаваньні мелі-б усе жыхары, што ў мамэнт галасаваньня будуць пражываць на дадзенай тэрыторыі, як і ўсе нацыяналыныя стораны будуць мець поўную свабоду агітацыі. Тэарэтычна нічога гэтаму закінуць нельга, але калі ходзіць аб падсавецкія нерасейскія тэрыторыі, дык ізноў-жа гэтае спэцыфічнае палажэньне, створанае насільлем Сталінскага рэжыму, ставіць іх у далёка горшае палажэньне за расейцаў.

Гэтак, прыклад, БССР, якая налічвала ў 1939 г. 10,525,511 жыхароў (так як не абыймала тады й не абыймае цяпер усіх беларускіх этнаграфічных земляў), на працягу звыш трыццаці год бальшавіцкага тэрору страціла звыш трох мільёнаў найбольш нацыянальна актыўнага беларускага насельніцтва, якое прымусова было высланае ў канцэнтрацыйныя лягеры Сібіру, на «вольнае» пасяленьне, а значная ягоная часьць фізычна зьнішчаная. За ўвесь гэты час адбылося жорсткае фізычнае вынішчэньне даслоўна усей беларускай нацыянальнай інтэлегенцыі. На месца знішчаных або гэткім спосабам ізаляваных беларусаў на Беларусі былі насланыя чужынцы, перадусім расейцы, якія сяньня адыгрываюць вядучую й кіраўнічую ролю на Беларусі й павялічваюць урадавы, палітычны й адміністрацыйны апарат. Вось-жа ў мамэнт такога галасаваньня увесь гэты, насланы дзеля русыфікатарскіх мэтаў элемэнт ня толькі будзе галасаваць супраць нацыянальных інтарэсаў беларускага народу, але й адыграе выдатную ролю на карысьць расейцаў у акцыі агітацыйнай. Пасьля вынішчэньня беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі роля гэтага элемэнту ў народным галасаваньні магла-б аказацца вырашальнай, тым больш, што ў палітычнай пляцформе СОНР-у сказана выразна, што дачыненьні да гэтых людзей — сяньняшніх прыгнятальнікаў будзе праводзіцца палітыка — «недапушчэньня пасьля паваленьня дыктатуры палітыкі помсты».

Пры гэтым нельга выпускаць з поля нашае увагі яшчэ аднэй магчымасьці, якая практычна магла-б мець месца. Нятолькі пасланыя бальшавікамі на Беларусь расейцы адыгралі-б вядучую ролю ў працэсе народнага галасаваньня, але й успамаглі-б іх у вялікай ступені тысячы расейскіх эміграантаў, якія падчас скрынінгаў у ДП лягерах ня месца свайго паходжаньня дзеля зразумелых прычынаў падавалі заходнюю Беларусь, хоць самі пхаодзяць з Тамбоўскай ці Куйбышаўскай акругаў. Нічога не стаяла-б расейскім палітычным дзейнікам на эміграцыі выслаць іх на Беларусь, бо-ж адпаведныя «дакумэнты» іхнага паходжаньня зь Беларусі яны маюць, а даказаць на месцы, што гэта злоўжываньне, пры бальшавіцкіх перасоўках насельніцтва на Беларусі ня было-б ніякае магчымасьці.

Такім чынам бальшавіцкі рэжым пры помачы сваіх антыбеларускіх русыфікатарскіх экспэрымэнтаў стварыў такую сытуацыю, якая, у выпадку такога народнага галасаваньня, якое прапануюць нам расейцы, апошнім можа даць нават лёгкую перамогу. Вось у гэтым і крыецца той сакрэт, што усе тыя нерасейскія элемэнты, што выступаюць супраць такой канцэпцыі галасаваньня, зьяўляюцца прадметам войстрых атакаў з расейскага боку й гойна абдароўваюцца імі пагардлівымі эпітэтамі «самостійніков», «сепаратістов», націонал-шовіністов» і «фашістов». Затое ўсе тыя, што на расейскую ?—?-?—? канкрэтна згаджаюцца, уважаюцца імі за сапраўдных дэмакратаў, бо такі «дэмакратызм» гарантуе захаваньне «единаой й неделимой».

З гэтых разважаньняў можна зрабіць два важныя вывады: адзін у дачыненьні да расейскіх ініцыятараў СОНР-у й тых палітычных колаў Захаду, якія гэткай канцэпцыі СОНР-у патрабуюць і заманьваюць у яго нацыянальныя прадстаўніцтвы нерасейскіх народаў, а другі — у дачыненьні да нас, беларусаў.

1. Нам прапануюць прыняць расейскую нацыянальную праграму і прыступіць да супрацоўніцтва з расейцамі на базе СОНР-у ў імя дэмакратычных прынцыпаў даказваючы, што народнае волявыяўленьне аб будучай дзяржаўнай структуры нашага народу апіраецца іменна на паняцьцях запраўднага дэмакратызму; нам-жа астаецца толькі адказаць, што грош цана такому дэмакратызму, які хоча абапёрціся на тэй трагічнай сытуацыі на Беларусі, якая была створаная шляхам жорсткага крывавага тэрору бальшавіцкага рэжыму, шляхам нячуваных актаў Сталінскага народаўбіўства.

2. Кожная тая беларуская арганізацыя, кожны той беларус, калі гэткія знойдуцца, што прыймуць запрапанаваную ім расейцамі нацыянальную праграму, усадзяць нож у плечы собскаму беларускам ународу. **Язэп Каранеўскі**

ЯКУБ КОЛАС

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЕМА

### III

### ЗА СТАЛОМ

— Ну, небажаты, будзем сьнедаць —
Ў людзей садзяцца ўжо абедаць.
Цягні мачанку, маці, зь печы!
За стол, малы, за стол, старэчы! —
Гаворыць дзядзька, сам сядае
І стол абрусам засьцілае.
Паміж дзьвюх лаў пад абразамі
Туліўся стол з двума кастрамі
Аладак грэцкіх, як пампушак,
Ды хлеб бы з зайчыка краюшак.
Міхал з Антосем, як старыя,
Займалі месцы канцавыя,
І іх трымаліся выключна,
Бо тут сядзець ім больш спадручна,
І ў кут старым трудней залезці,
А на пачэсным гэтым месьце
Садзіўся госьць — і то ня кожан;
А як цяпер быў кут парожан,
То там Алесь прымайстраваўся,
Сядзеў на кукішках, гайдаўся,
Цішком шчыкаючыся з братам.
Кастусь сыдзеў між ім і татам;
Ён да яды ня быў так падак,
Бо ўжо намазаўся аладак,
Але сядзеў і мяў аладку
Ды штурхаў бацьку пад лапатку.
Уладзік бы ў дзядзькі збоку . . .
Дзядей, як тых снапкоў на току! —
Сямейка, праўда, не малая:
Чатыбы хлопцы, тры дзяўчаці
Ды дзядзька з бацькам, трэця маці;
І кажын месца сваё мае.
Тымчасам маці даставала
Чыгунчык зь печы, лыжку брала
І верашчаку налівала.
А за сталом на верашчаку
Падгатаўлялі ўжо атаку, —
На гэта хлопцы былі хваты,
Аладкі кроілі ў квадраты
(Хоць геомэтрыі ня зналі)
І на відэльцы іх чаплялі,
Як-бы на тычкі тыя вешкі,
Каб не адстаць, ня мець замешкі
У часе дружнае яды.
Ледзь міска ткнулася сюды,
Дык у яе, як па прыказу,
Відэльцаў з восем лезе зразу.
Гаворка моўкне, сьмех сьціхае:
Цяпер мінуціна другая,
Бо ўсіх займае міска стравы;
Другія моманты, праявы, —
Усе прахукваюць ды студзяць
І верашчаку тую вудзяць
І толькі чаўкаюць губамі
Ды зрэдка скрыгаюць зубамі,
Як-бы на бераг тыя хвалі
У часе ветру наступалі.
Малыя — Гэля, Юзік, Ганна—
Асобна елі пастаянна.
Парадку дзеці ня трымалі.
І іх ніколі ня сьціскалі,
Так, Юзік пальцам поркаў страву
І верашчакай мазаў лаву,
Але тут сёстры сердавалі
І залаб Юзіка цягалі.
Тады іх згода прападала,
Між імі бойка вынікала,
Пускаў тут Юзік лыжку ў дзела;
Ня раз лабаціна трашчэла
Ў сястрычак Гэлі ці Ганулі.
А сёстры Юзіка цягнулі
За вушы з двух бакоў і білі.
Але іх старшыя мірылі, —
На пожар злосьці лілі воду
І замацоўвалі так згоду:
— Ну, пацалуйцеся-ж вы з браткам! —
І ўсё йшло зноў сваім парадкам.
А за сталом маўчком сядзелі.
Там хлопцы гыркацца ня сьмелі,
Бо там падпілуюць табе рогі,
Калі парушыш дысцыпліну,
Ды пад нядобрую часіну:
Дадуць там «лэмбуся» і «квасу»,
Каб ня круціліся бяз часу.
І ледзь калі што вынікала,
То бацька кідаў так, бывала,
На хлопцаў погляд выразліва,
Што тыя ў лаву баязьліва
Траха са страху не ўпаўзалі,
Бо гэты погляд добра зналі.
Там і цяпер, як і заўсюды,
Макалі ўсе з аднэй пасуды
І елі дружна, не драмалі;
Нарэсьце ўсе па скварцы бралі.
Як верашчака ў дно спадала,
То маці есьці пакідала
Ды йшла ў камору па другое,
Яшчэ больш смачнае, ядкое,
І тарабаніла сюды
Для заканчэньня ўжо яды
Тварог, запраўлены сьмятанай,
Нясла зь вялікаю пашанай.
За ёю хлопцы адставалі
І бацьку зь дзядзькам пакідалі
Над верашчакай завіхацца.
Мужчыны бралі па аладцы
І аж пацелі, небаракі.
З аладкі дзядзька рабіў трубку,
Каб лепш здаволіць сваю губку
І больш зачэрпаць верашчакі.
А бацька браў блінцом спавагу,
Бо на Антося меў увагу:
Антось-жа правіў гаспадарку,
Рабіў за двох, на сваім карку
Цягнуў ярэмца земляроба,
Ну, словам, дзядзька наш — асоба!
А пападалася там скварка,
Была між імі ледзь ня сварка:
— Бяры, Антось! — Я намакаўся,
Бяры, брат, ты: ты больш цягаўся,
І спрэчку тым яны канчалі,
Што гэту скварку разразалі.
Другая міска, міска-яма,
Апаражнялася таксама,
І ўжо к канцу таго сьнядання
Хлапцы здаволілі жаданьне,
І ад мужчын яны адсталі.
Павольней сківіцы жавалі,
Крышылі страву як нарокам.
І бацька кідае відэльцы,
Рукою гладзіць па камзэльцы,
На абразы ўскідае вокам
І шэптам хрысьціцца набожна.
Тымасам міска і парожна,
І маці стол ужо прыбрала,
Пасуду, лыжкі паласкала.
А дзядзька сеў курыць на ўслоне.
Злажыўшы шчыльненька далоні,
Міхал сядзеў, не варушыўся
І ў мыслі нейкія ўглыбіўся.
Ды маці зь дзядзькам добра зналі,
Дзе тыя мыслі вандравалі,
Што йх гарнула, што туліла
І дзе было ім гэтак міла.
Даўно ўжо бацька жыў думою

